

**Зброю, якою будуць нейтралізоўваць тэрарыстаў на борце авіялайнераў, хутка атрымаюць амерыканскія пілоты. Гэта электрашокавы пісталет, які выстрэльвае на адлегласць каля 5 метраў дзьвума іглами на провадах, па якіх падаецца электрычны зарад высокага напружання.**

ФОТА Рэйтэр.

# Хто мацнейшы?

**Суадносіны ваенных патэнцыялаў Расіі і ЗША**

| Паказчыкі | Расія | ЗША |
|---|---|---|
| Колькасць насельніцтва, млн. чалавек | 144,8 | 282,1 |
| Колькасць мужчын, годных для вайсковай службы, млн. чалавек | 30 | 56 |
| Ваенны бюджэт, мільярдаў даляраў | 8,36 | 292,3 |
| Колькасць рэгулярных узброеных сіл, тысяч чалавек | 1200 | 1365 |
| У тым ліку: | | |
| Сухапутныя сілы, тыс. чалавек | 400 | 471 |
| ВПС, тыс. чалавек | 250 | 353 |
| ВМС, тыс. чалавек | 225 | 541 |
| Міжкантынентальныя балістычныя ракеты | 756 | 534 |
| Міжкантынентальныя бамбардыроўшчыкі | 81 | 190 |
| Танкі | 16000 | 8300 |
| Рэактыўныя ўстаноўкі | 1700 | 1075 |
| Артылерыйскія гарматы | 6400 | 6000 |
| Знішчальнікі | 950 | 4300 |
| Самалёты-запраўшчыкі | 20 | 660 |
| Геліякоптэры (верталёты) | 2500 | 6720 |
| Авіяносцы | 1 | 12 |
| Эсмінцы | 17 | 54 |
| Атамныя ўдарныя падводныя лодкі | 27 | 57 |
| Дызельныя падводныя лодкі | 21 | 0 |
| Дэсантныя караблі | 25 | 84 |

*Табліца складзена па звестках Міністэрства абароны і Мінфіна Расіі, інтэрнэтаўскіх сайтаў, айчынных і зарубежных СМІ і незалежных экспертаў.*

*Гаючая флора*

# Гарбуз

Дагэтуль няма адзінага сцвярджэння наконт яго паходжання. Хто лічыць яго радзімай Амерыку, хто — Кітай. Па ўсіх батанічных прыкметах гарбуз — ягада. Буйней гэтай ягады ў свеце няма плода. Адносіцца да сямейства гарбузовых, якое налічвае больш 1000 відаў: кавун, дыня, гуркі, кабачкі, патысоны і інш. У Еўропу Калумб завёз з Амерыкі. Там гарбуз ведалі яшчэ 3 тысячы гадоў да н.э. Насенне гарбуза знаходзілі ў персіянскіх пахаваннях.

Без гарбуза цяжка сэрцу, крываносным сасудам, ныркам, печані, страўніку, нервовай сістэме. Прасцей кажучы, гарбуз патрэбен арганізму ў халодны зімовы час.

Для мачаполавай сістэмы гарбуз адзін з лепшых прадуктаў — і лечыць, і аднаўляе сілы, і амаладжвае. Гарбузовы сок заўсёды ў народзе лічылі эліксірам маладосці. Калі гарбуз — паўсядзённы прадукт у меню, у вас не будзе пяску ў нырках, печані, жоўцевым і мачавым пузыры; сэрца не будзе хварэць ні ад стрэсаў, ні ад магнітных бур. І што таксама важна, тая самая «зімовая спячка», у якую з кастрычніка па красавік звальваюцца мужчыны пасля 30-гадовага ўзросту, не будзе стойкай. І хоць «спячка» ў нейкай меры фізіялагічна, але як яна назаляе мужчынам самім і іх жонкам! Гарбузовы сок хаця б па 1/3 шклянкі штодзённа, ці пюрэ, у якое для смаку можна дадаць яблыкі альбо любы сок, памогуць мужчыне ў яго адчуваннях і жаданні. А жанчыне пры сяброўстве з гарбузом не прыйдзецца звяртацца да касметолагаў.

У Заходняй Украіне цыганы прадаюць прываротнае зелле, якое складаецца з ачышчаных і змеленых у муку семак гарбуза. Але калі вы вырашыце прыгатаваць яго, то ведайце, што з падсмажаных семак «зелля» не атрымаецца. Семкі трэба, як і на насенне, сушыць толькі на адкрытым паветры. Бо калі семкі трацяць усходжасць, яны ўжо трацяць і «заваарожваючае» ўздзеянне. Пажадана знаць меру: не больш чвэрці шклянкі ачышчаных семак ці 1 ст. лыжка размеленых семак штодзённа.

Плады гарбуза ўтрымліваюць вугляводы, клятчатку, вітаміны С, групы В, Е, каратын, калій, кальцый, магній, жалеза, цынк, кобальт. Яны валодаюць паслабляльным, жоўцегонным, мачагонным дзеяннем, цудоўны пры атэрасклерозе, захворваннях сэрца, мачавога пузыра, печані, нырак, запорах. Проста неабходна ўпрыгожыць наш стол стравамі з гарбуза.

Кашка, адвар, эмульсія з семак гарбуза прымяняюцца супраць лентачных глістоў — бычынага, свінога і карлікавага цэпня, шырокага ленцеца і іншых. «Малако» з семак гарбуза і канопляў, здаўна лічыцца добрым лячэбным сродкам пры захворваннях печані і мачавога пузыра. У невялікай колькасці можна ўжываць гарбузовы сок нанач пры бяссонніцы і пры трывожным сне.

З усіх бахчавых культур гарбузы захоўваюцца самы працяглы час. Таму ўсю зіму і вясну можна ўжываць у ежу свежымі. З гарбузоў можна гатаваць розныя кашы, супы-пюрэ, марынады, сіропы, смажыць у смятане, пекчы ляпёшкі і г.д. Гэта каштоўная вітамінная ежа.

*Куток гаспадыні*

## Пюрэ з гарбуза

*500 г гарбуза, 8 яблык, 2 ст. л. цукру, 4 ст. л. сметанковага масла, 4 жаўткі, 2 ст. л. мукі, 2 шклянкі малака, паўшклянкі змеленых ядраў грэцкіх арэхаў.*

Ачышчаны гарбуз і яблыкі надраць асобна на буйной драчцы. Гарбуз тушыць у невялікай колькасці вады і малака на слабым агні пры закрытай накрыўцы да паўгатоўнасці. Дадаць яблыкі, муку, пасаліць, перамяшаць, тушыць яшчэ 3-5 хвілін. Заправіць жаўткамі з цукрам, арэхамі, сметанковым маслам. Зняць хутка з агню.

## Пудзінг з гарбуза, рысу і яблык

*600 г гарбуза, паўшклянкі малака, 2 яблыкі, 2/3 шклянкі рысу, 2 ст. л. цукру, 3 ст. л. сметанковага масла, 2 яйкі, 2 ст. л. смятаны, соль.*

Гарбуз і яблыкі ачысціць, надраць на буйной драчцы, дадаць малако і 1 ст. л. сметанковага масла, тушыць пры закрытай накрыўцы да гатоўнасці. Затым увесці вараны рыс, соль, цукар, жаўткі, узбітыя бялкі, асцярожна перамяшаць. Прыгатаваную масу выкласці ў форму, змазаную маслам, паліць смятанай, запекчы ў духоўцы. Падаваць з маслам.

## Кактэйль з півам і малаком

У міксеры (ці ў бутэльцы) перамяшаць 1 яйка, 2 ч.л. цукровай пудры, 0,5 кубка малака і 20 мл цёмнага піва.

## Піва пеннае

Добра перамяшаць у малой эмаліраванай каструльцы 3 яйкі і 1 шклянку добрага чырвонага віна, дадаць 2-3 ст.л. цукру і 3 шклянкі піва. Атрыманую сумесь паставіць у большую каструлю з варам, які стаіць на пліце і кіпіць, і збіваць гэтую сумесь да тае пары, пакуль напой не пакрыецца таўсценнай шапкай пены, тады і разліць яго ў бакалы.

*З народнага лячэбніка*

## Сродак вясковых лекараў ад сухотаў (туберкулёзу)

Гэтае лякарства робіцца з наступных рэчываў: ліпавага мёду — 3 фунты, дробна накрышанага сталетніку (алоэ). Трэба памятаць, што хворым са слабым сэрцам яго даваць не варта. 1 шклянка, праванскага масла — чвэрць фунта, бярозавых пупышак — 6 залатнікоў, ліпавых кветак — 2 залатнікі вады — 2 шклянкі.

__Спосаб прыгатавання:__ растапіць мёд у каструлі, дадаць да яго алоэ і сумесь гэту добра праварыць. Асобна ад гэтага ў дзвюх шклянках вады заварыць бярозавыя пупышкі і ліпавыя кветкі, •пракіпяціўшы іх 2 хвіліны. Калі мёд прастыне, то, выціснуўшы сок з пупышак бярозы і кветак ліпы, уліць яго ў мёд. Сумесь разліць у 2 пляшкі, дадаючы пароўну ў кожную праванскага масла. Перад ужываннем узбоўтваць.

__Доза:__ па адной сталовай лыжцы тры разы ў дзень.

## Віно з алоэ ад сухотаў

На бутэльку віна пакласці чатыры сцяблы алоэ і настойваць чатыры дні.

__Доза:__ піць тры разы ў дзень па 40 кропель.

*Анекдоты*

— Хто прыдумаў шахматы?
— Рускія, хто ж яшчэ...
— Чаму ты так лічыш?
— Таму што галоўнае ў гэтай гульні — мат.

* * *

Няма такой чыстай і светлай думкі, якую б рускі чалавек не змог выказаць самым гразным мацюком.

* * *

Гавораць дзве дамы:
— Усе мужыкі п'юць!
— А мой, гад, дык яшчэ і есць!

* * *

— Татка, а гэта праўда, што ў асобных краінах Усходу жаніх не ведае, хто яго нявеста, пакуль не ажэніцца?
— Гэта, сынок, у любой краіне!

*Крыху прафілактыкі*

## Як палепшыць слых

Лекары лічылі, што калі на працягу 1-2 месяцаў штодзённа 1-2 разы ў дзень жваць лупінне лімону, слых палепшыцца. Не пашкодзіць, калі вы скарыстаеце і гаючыя ўласцівасці часноку. А ён валодае такім жа дзеяннем. Ачышчаны зубок пакладзіце ў вуха і трымайце пакуль з'явіцца пякота. Правядзіце гэтую працэдуру 1-2 разы ў дзень на працягу 1-2 месяцаў.

## Ад прастуды

Мёд і сок цыбулі ўзяць пароўну, перамяшаць. Ужываць па 2 ст. лыжкі 3 разы ў дзень.

*Народныя замовы*

*Гэтая рубрыка ўпершыню з'явілася ў «Беларускім Усходзе» ў N 19 (8 траўня 2001 г.).*

*Сёння мы яшчэ раз напамінаем чытачам і папярэджваем:*

1. Замова мае сілу і значэнне толькі ў тым выпадку, калі той, хто мовіць яе — чалавек моцны духам і воляй.

2. З замовы нельга выкінуць ніводнага слова; а таксама дадаць слова па свайму ўгледжанню.

3. Замова можа перадавацца толькі два разы, пасля трэцяй перадачы, той, хто перадаў замову, губляе магчымасць працаваць з ёю, бо выказаная з яго вуснаў замова сілы ўжо не мае.

4. Многія замовы чытаюць раніцай, на зары, ці перад ўсходам сонца ў любы дзень, акрамя панядзелка. Лепш за ўсё вымаўляць замову ў першыя дні на маладзіку.

## Ад парэзу

На моры на Акіяні, на востраве на Буяні ляжыць бел-гаруч камень Алатыр, на тым камяні Алатыр сядзіць красна дзявіца, швяя-масцярыца, трымае іглу булатную, зацягвае нітку шаўковую, руда-жоўтую, зашывае раны крывавыя. Замаўляю я раба (такогась) ад парэзу. Булат, прэч адстань, а ты, кроў, цячы перастань.

*Што ў імені тваім?*

## Валянціна

Замуж выходзіць па каханню, але яе пачуцці нараджаюцца хутчэй як пачуццё ў адказ на пачуцці другога чалавека, які адчувае да яе моцнае каханне.

Цалкам уцягваецца ў сямейнае жыццё, прысвячае яго мужу і дзецям.

Удалы шлюб будзе з Валянцінам, Уладзімірам, Глебам, Іванам, Сяргеем, Сямёнам, Аляксандрам. Няпростыя адносіны будуць з Барысам, Георгам, Леанідам, Мікалаем, Станіславам.

## Кацярына

Самаўлюблёная, схільная верыць астральным прагнозам, яна валодае нерашучым характарам. Хаця каля яе стала находзяцца шмат паклоннікаў, замуж яна не выходзіць доўга. Ёй патрэбен муж, блізкі па псіхалагічнаму складу, які б даў ёй упэўненасць у сабе. Удалы шлюб будзе з Антонам, Віталем, Дзянісам, Пятром, Паўлам, Сямёнам. Няўдалы — з Віктарам, Кірылам, Мікалаем, Піліпам, Якавам.

## Зінаіда

Валодае прывабнасцю, мужчыны заўсёды звяртаюць на яе ўвагу. У шлюбе мужу прыйдзецца згадзіцца з яе камандзірскай натурай, якая вызначае, што трэба рабіць мужу і дзецям у пэўную хвіліну. Шчаслівы шлюб будзе з Уладзімірам, Захарам, Паўлам, Сцяпанам, Юрыем. Менш удачным — з Дзмітрыем, Дзянісам, Іванам, Станіславам, Якавам.

*"Беларускі Ўсход"*

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.
На беларускай і рускай мовах.
*Заснавальнік* — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141**
Падпісны індэкс — 64098



Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 19 снежня 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1432 ас.** Аб'ём 1 друк. аркуш. **Заказ № 46.**